НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ

# ЛІНГВІСТЫЧНЫ МІКРААТЛАС

# ТУРАЎШЧЫНЫ



НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа
ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ «ТУРАЎСКАЕ НАВУКОВА-АСВЕТНІЦКАЕ ТАВАРЫСТВА»

## ЛІНГВІСТЫЧНЫ МІКРААТЛАС

# ТУРАЎШЧЫНЫ

Мінск
«Беларуская навука»
2016

УДК 811.161.3'373'374.58(476.2)
ББК 81.2Беи-4
Л59

Аўтарскі калектыў:

А. А. Крывіцкі, Г. А. Цыхун, І. Я. Яшкін, П. А. Міхайлаў, Т. М. Трухан, Ф. Д. Клімчук

Укладальнікі:

Ф. Д. Клімчук, У. А. Кошчанка, І. І. Лапуцкая, М. А. Саскевіч

Навуковы рэдактар:

доктар філалагічных навук Г. А. Цыхун

Рэцэнзенты:

доктар філалагічных навук М. А. Даніловіч, кандыдат філалагічных навук Л. П. Кузьміч

**Лінгвістычны** мікраатлас Тураўшчыны / А. А. Крывіцкі [і інш.] ; уклад.: Ф. Д. Клімчук
Л59 [і інш.] ; навук. рэд. Г. А. Цыхун. – Мінск : Беларуская навука, 2016. – 275 с.
ISBN 978-985-08-2022-8.

У кнізе падаецца моўны матэрыял, сабраны ў населеных пунктах культурна-гістарычнага і прыродна-геаграфічнага рэгіёна Тураўшчыны і яго праекцыя на картах мікраатласа. Цэнтральнае становішча Тураўшчыны ў межах Беларускага Палесся дазваляе прасачыць яго сувязі з іншымі дыялектнымі зонамі і адначасова сведчыць пра захаванне рэгіянальнай моўнай культуры. Кніга з'яўляецца працягам пяцітомнага «Тураўскага слоўніка» (1982–1987).

Адрасуецца як спецыялістам-моваведам, так і шырокай грамадскасці, якая цікавіцца мовай, культурай і гісторыяй асобных рэгіёнаў Беларусі.

**УДК 811.161.3'373'374.58(476.2)**
**ББК 81.2Беи-4**

**ISBN 978-985-08-2022-8**

# ПРАДМОВА

Ідэя «Лінгвістычнага мікраатласа Тураўшчыны» (ЛМТ) узнікла ў працэсе збірання матэрыялаў для складання «Тураўскага слоўніка». Ініцыятары яго стварэння меркавалі, што ён будзе заключнай часткай слоўніка[1]. Збіральнікі матэрыялаў, уяўляючы на першых парах Тураўшчыну як кампактны дыялектны арэал з аднатыпнай гаворкай, вельмі хутка заўважылі істотныя адрозненні на адносна невялікай тэрыторыі[2], якую звычайна да гэтага разглядалі ў дыялектным плане ў якасці працягу гаворак Мазырскага Палесся. Пры гэтым выявілася, што мясцовыя жыхары даволі добра ведаюць такія адрозненні і могуць больш-менш дакладна вызначыць межы шмат якіх асаблівасцей, арыентуючыся на бліжэйшыя суседнія населеныя пункты. Усё гэта сведчыла аб старажытным моўным ландшафце Тураўшчыны, што складваўся тут на працягу значнага часу. Адносная ізаляванасць тэрыторыі, стабільны гаспадарчы ўклад, а таксама адсутнасць істотных перамяшчэнняў і шматлікасць насельніцтва дазвалялі падтрымліваць выразны мясцовы узус у большасці абследаваных пасяленняў. Складзеныя на падставе сабраных па спецыяльным апытальніку матэрыялах карты ЛМТ маюць на мэце паказаць унутраную дыферэнцыяцыю гэтага старажытнага моўнага рэгіёна. Паколькі ён размешчаны ў цэнтральнай частцы Беларускага Палесся, была зроблена спроба прадэманстраваць яго сувязі як з усходнепалескімі, так і з заходнепалескімі гаворкамі, што запатрабавала пашырыць спіс абследаваных населеных пунктаў за межы гістарычнай Тураўшчыны. Умоўнасць гэтых меж з самага пачатку працы над складаннем слоўніка добра ўсведамлялася экспларатарамі[3]. Першапачаткова меркавалася акрамя 33 вёсак у наваколлі і самога Турава ахапіць каля 60 населеных пунктаў на больш аддаленай тэрыторыі[4], аднак фактычна была абследавана значна меншая колькасць сёл па суседству з гэтай зонай (гл. спіс абследаваных пунктаў).

Такім чынам, структура мікраатласа ўключае цэнтральную частку – уласна Тураўшчыну як прыродна-геаграфічны і культурна-гістарычны рэгіён, абмежаваны з поўначы Прыпяццю, на ўсходзе і поўдні яе прытокамі Маствой (па-мясцоваму – Моствай, Моўствай) і Сцвігай, а на захадзе Гарынню[5], і перыферыю – выбарачна абследаваныя па праграме населеныя пункты, што ўтвараюць гэтак званую бліжнюю перыферыю, якая ў агульных рысах абмяжоўваецца з поўначы чыгункай Брэст–Гомель, на поўдні – граніцай з Украінай, на захадзе – рэкамі Гарынню і Ланню, на ўсходзе – тэрыторыяй Жыткавіцкага раёна і ракой Свінавод[6], а таксама гэтак званую дальнюю перыферыю за межамі акрэсленага арэала, якую ўтвараюць населеныя пункты, што знаходзяцца на значнай адлегласці ад цэнтральнага рэгіёна ЛМТ і ўмоўна размешчаны на карце-схеме за вертыкальнай рысай. Такая структура мікраатласа, апрабаваная ў некаторых палескіх атласах[7], дазваляе ўключыць гаворкі Тураўшчыны ў больш шырокі дыялекталагічны кантэкст. Разам з тым у шмат якіх

[1] Крывіцкі А. А., Цыхун Г. А., Яшкін І. Я. Пра слоўнік Тураўшчыны // Народнае слова. – Мінск, 1976. – С. 292.

[2] Гэтым, у прыватнасці, тлумачыцца ўжыванне тэрміна «мікраатлас».

[3] Крывіцкі А. А. Тураўшчына і слоўнік яе гаворкі // Тураўскі слоўнік. – Мінск, 1982. – Т. 1. – С. 9.

[4] Крывіцкі А. А., Яшкін І. Я. Лінгвагеаграфічнае вывучэнне Тураўшчыны // Народная словатворчасць. – Мінск, 1979. – С. 302.

[5] Тураўскі слоўнік. – Т. 1. – С. 9.

[6] Крывіцкі А. А., Яшкін І. Я. Лінгвагеаграфічнае вывучэнне Тураўшчыны. – С. 303.

[7] Гл., напрыклад: Самуйлік Я. Р. Атлас гаворак Выганаўскага Палесся. – Брэст, 2013.

выпадках яна дэманструе іх своеасаблівасць у лінгвагеаграфічным плане[8], што дае падставы для арэальнай інтэрпрэтацыі разгледжаных з'яў у якасці мясцовых інавацый ці архаізмаў.

Збіранне матэрыялаў для складання ЛМТ пачалося ў 1979 г. Асновай працы стаў «Апытальнік Лінгвістычнага мікраатласа Тураўшчыны», складзены А. А. Крывіцкім на падставе наяўнай у той час картатэкі матэрыялаў для «Тураўскага слоўніка». У працэсе абследавання ў яго ўносіліся пэўныя папраўкі і ўдакладненні (гл. папраўлены поўны тэкст апытальніка). Змест яго ўключае наступныя раздзелы: «Анамастыка», «Фанетыка», «Марфалогія», «Лексічны склад». У межах гэтых раздзелаў падаюцца пранумараваныя ўкладальнікамі ЛМТ асобныя тэмы, да якіх аднесены адпаведныя карты-схемы. Па аб'ектыўных прычынах «Лінгвістычны мікраатлас Тураўшчыны» ахоплівае не ўсе адказы на пастаўленыя ў апытальніку пытанні, бо грунтуецца пераважна на матэрыялах, атрыманых ад носьбітаў гаворак абследаванага на працягу 1979–1992 гг. арэала па раздзелах «Марфалогія» і «Лексічны склад». Акрамя таго ў некаторых населеных пунктах па просьбе ўкладальнікаў, звычайна знаўцамі адпаведнай гаворкі, было праведзена дадатковае апытанне, а таксама выкарыстаны апублікаваныя матэрыялы і новыя, сабраныя аўтарскім калектывам гэтага выдання. Як відаць з яго зместу, асноўную частку складаюць карты, прысвечаныя лексічнаму складу тураўскай гаворкі і яе акружэння. У гэтым плане, як ужо адзначалася, «Лінгвістычны мікраатлас Тураўшчыны» як непасрэдны працяг «Тураўскага слоўніка» дае праекцыю найбольш цікавай лексікі на шырокую лінгвагеаграфічную прастору. Праўда, як аказалася ў рэальнасці, часавы прамежак паміж пачаткам стварэння картатэкі «Тураўскага слоўніка» (1966 г.) і працай па зборы матэрыялаў для мікраатласа паўплываў пэўным чынам на канчатковыя вынікі: шмат якіх слоў, зафіксаваных раней у некаторых населеных пунктах Тураўшчыны і прысутных у апытальніку, не ведалі ці не маглі дакладна падаць іх значэнне маладзейшыя інфарманты з тых самых мясцовасцей. Зразумела, што гэта магло быць адлюстраваннем рознай методыкі збору матэрыялаў: з аднаго боку, штодзённыя сустрэчы і размовы з вялікай колькасцю носьбітаў гаворкі з мэтай выявіць мясцовы лексічны узус, з другога боку, фактычнае апытванне шляхам інтэрв'ю ці анкетавання ў час кароткачасовага наведвання населенага пункта. Таму пры картаграфаванні мы не пераносілі геаграфічных даных, зафіксаваных у «Тураўскім слоўніку», у ЛМТ. Такая методыка збору матэрыялу магла паўплываць і на фіксацыю семантыкі некаторых слоў у мікраатласе – нярэдка яна адлюстроўвала індывідуальную рэакцыю інфарманта на зададзенае пытанне і была своеасаблівай сітуацыйнай імправізацыяй без суаднясення з адпаведным мясцовым узусам. Наогул, такое апытанне з прад'яўленнем у якасці стымулаў асобных лексем, асабліва слоў з падраздзелаў апытальніка «Ці ведаеце гэтыя словы ў адзначаным значэнні?» і «Ці ведаюць гэтыя словы і што яны абазначаюць?», у нечым нагадвала асацыятыўны эксперымент. У адказах на такія пытанні інфарманты часам падавалі блізкую па гучанні ці па значэнні назву, што мы палічылі неабходным адлюстраваць на картах-схемах, хаця гэтае слова і не з'яўлялася дакладным адказам на пастаўленае пытанне[9]. Зразумела, што ў гэтых выпадках лінгвагеаграфічная характарыстыка адносіцца толькі да слоў ці выразаў, якія былі прадметам апытання, што датычыць астатніх адказаў, то яны адзначаюцца на картах толькі ў тых пунктах, дзе зафіксаваны як дадатковая рэакцыя інфарманта, звязаная з пастаўленым пытаннем. Часам такія адказы сведчаць пра адсутнасць пытанага слова ў гэтым населеным пункце або пра невядомасць яго канкрэтнаму інфарманту.

У сувязі з гэтым «Лінгвістычны мікраатлас Тураўшчыны», з'яўляючыся ў значнай ступені своеасаблівым дадаткам да «Тураўскага слоўніка» (гл. таксама анатаваны спіс некаторых іншых апублікаваных крыніц лексічных матэрыялаў па Тураўшчыне), ставіць і часткова вырашае свае спецыфічныя задачы ў галіне лінгвагеаграфіі, сацыялінгвістыкі і псіхалінгвістыкі, бо нярэдка ў адказах інфармантаў, асабліва ў адносінах да слоў з іх пасіўнага запасу, прысутнічае «народнаэтымалагічны» аспект, які праяўляецца ў развагах тыпу: *До чого гэто можно прыкласці?* Гэтыя развагі і асацыяцыі адлюстраваны ў запісах адказаў на пытанні, якія прыводзяцца цалкам

[8] Параўн. ізаглосы, якія акрэсліваюць Тураўшчыну ў кн.: Лексічныя ландшафты Беларусі. Жывёльны свет. – Мінск, 1995. – С. 155.

[9] Паводле польскіх даследчыкаў, такая методыка паказвае, "jak różnicuje się poziom rozumienia i używania słownictwa gwarowego w zależności od parametrów socjalnych charakteryzujących poszczególnych użytkowników języka... Zwykle bowiem pytanie o jeden leksem powoduje przywołanie innego" (Kucharchyk R. O potrzebie socjolingwistycznego badania zmian w słownictwie gwarowym // Języki słowiańskie w ujęciu socjolingwistycznym. – Kraków, 2012. – S. 73).

у аўтэнтычным выглядзе, часам з тлумачэннямі па-руску, якія давалі маладзейшыя інфарманты. Для картаграфавання было праведзена абагульненне гэтых запісаў з улікам адпаведных матэрыялаў «Тураўскага слоўніка», бо нярэдка ў адказах змяшчаўся толькі намёк на ўжыванне пэўнага слова ці ўказанне на найбольш часты кантэкст такога ўжывання.

Асноўную працу па збіранні і апрацоўцы матэрыялаў для ЛМТ на працягу ўсяго перыяду падрыхтоўкі ажыццяўляў аўтарскі калектыў ініцыятараў і стваральнікаў «Тураўскага слоўніка». Актыўны ўдзел у зборы матэрыялаў як на самой Тураўшчыне, так і асабліва на яе бліжняй і дальняй перыферыі, прыняў Ф. Д. Клімчук, які разам з У. А. Кошчанкам правёў картаграфаванне ўсіх матэрыялаў. Пры падрыхтоўцы атласа да друку ў тэхнічным і арганізацыйным плане значную працу выканалі І. І. Лапуцкая і М. А. Саскевіч. Асобныя пункты за межамі Тураўшчыны, уключаныя ў ЛМТ, абследавалі В. М. Галай (№ 61, в. Ткачы), У. В. Грышанаў (№ 62, в. Лапацін), К. С. Карнялюк (№ 65, в. Андронава), В. В. Шапялевіч (№ 63, в. Каўняцін), В. В. Шур (№ 67, в. Стадолічы). Пэўныя ўдакладненні і дапаўненні ў матэрыялы ЛМТ унеслі С. А. Мышапуд, М. І. Пашкевіч, К. Ф. Руц, М. А. Скачэк і іншыя даследчыкі палескіх гаворак.

Такім чынам, «Лінгвістычны мікраатлас Тураўшчыны», у падрыхтоўцы якога на працягу больш чым 35 гадоў прымалі ўдзел як яго ініцыятары і стваральнікі «Тураўскага слоўніка», так і шырокае кола лінгвістаў і аматараў роднага слова, завяршае пэўны этап вывучэння мовы і багатай культурнай спадчыны гэтага ўнікальнага гістарычнага рэгіёна Беларусі.

*Генадзь Цыхун*

# ТУРАЎШЧЫНА
(фрагмент геаграфічнай карты



І НАВАКОЛЛЕ

з адкрытых інтэрнэт-крыніц)



# ЛЕКСІЧНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ ПА ТУРАЎШЧЫНЕ
## (выбраная бібліяграфія)

1. Atlas Linguarum Europae. – Assen: Van Corcum, 1983. – Vol. 1. – Fasc. 1; 1986. – Vol. 1. – Fasc. 2; 1988. – Vol. 1. – Fasc. 3; 1990. – Vol. 1. – Fasc. 4; Roma: Poligrafico, 1997. – Vol. 1. – Fasc. 5; 2002. – Vol. 1. – Fasc. 6; 2007. – Vol. 1. – Fasc. 7; Bucureşti: Editura Univ. din Bucureşti, 2014. – Vol. 1. – Fasc. 8; Fasc. 9.

Лексіка Тураўшчыны прадстаўлена матэрыяламі, запісанымі ў населеным пункце Запясочча.

2. Атлас української мови. – Київ: Наукова думка, 1988. – Т. 2 (Волинь, Наддністрянщина, Закарпаття і суміжні землі).

З тэрыторыі Тураўшчыны падаюцца матэрыялы, запісаныя ў населеных пунктах Любавічы і Семігосцічы.

3. Вярэніч, В. Л. Палескі архіў. Лінгвістычныя, этнаграфічныя і гістарычныя матэрыялы / В. Л. Вярэніч. – Мінск: Выд. А. А. Вараксін, 2009.

У кнізе змешчаны розныя па аб'ёме слоўнікавыя і анамастычныя матэрыялы з наступных населеных пунктаў Тураўшчыны: Аздамічы, Альгомель, Альпень, Альшаны, Бярэжцы, Вароніна, Велямічы, Верасніца, Вялікае Малешава, Давыд-Гарадок, Дварэц, Запясочча, Кароцічы, Малешаў, Мачуль, Рамель, Рубель, Рыдча, Рычоў, Семігосцічы, Талмачава, Тураў, Хачэнь, Хільчыцы, Хотамель, Цераблічы і інш.

4. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. – Мінск: Выд-ва АН БССР, 1963.

З тэрыторыі Тураўшчыны лексічныя матэрыялы падаюцца з населеных пунктаў Аздамічы, Велямічы, Запясочча, Семігосцічы.

5. Дыялектны слоўнік Брэстчыны. – Мінск: Навука і тэхніка, 1989.

Тураўшчына прадстаўлена слоўнікавымі матэрыяламі, запісанымі ў населеных пунктах: Альгомель, Альпень, Альшаны, Велямічы, Вялікае Малешава, Давыд-Гарадок, Кароцічы, Мачуль, Рамель, Рубель, Семігосцічы, Талмачава, Хотамель, Цераблічы.

6. Крывіцкі, А. А. Пра слоўнік Тураўшчыны / А. А. Крывіцкі, Г. А. Цыхун, І. Я. Яшкін // Народнае слова. – Мінск: Навука і тэхніка, 1976. – С. 288–307.

Да публікацыі прыкладзены пробныя артыкулы на літары А–Г.

7. Кузьміч, Л. П. У слоўнік Тураўшчыны / Л. П. Кузьміч, Д. Д. Паўлавец // Гомельшчына. Народная духоўная культура. Дыялекты. Тапанімія: матэрыялы рэгіян. навук. канф., прысвеч. 850-годдзю летапіснага ўпамінання Гомеля. – Гомель, 1992. – С. 54–55.

Падборка лексікі, не зафіксаванай у «Тураўскім слоўніку», з населеных пунктаў Тураўшчыны.

8. Купрыенка, В. А. Матэрыялы да слоўніка гаворак Мазырскага Палесся / В. А. Купрыенка, В. В. Шур. – Мазыр: Мазыр. дзярж. пед. ін-т, 1996.

Асобныя словы і выразы, запісаныя ў населеных пунктах Верасніца, Вялікае Малешава, Запясочча і Пагост.

9. Лексіка гаворак беларускага Прыпяцкага Палесся. Атлас. Слоўнік. – Мінск: Права і эканоміка, 2008.

Матэрыялы з населеных пунктаў Тураўшчыны: Аздамічы, Альшаны, Буразь, Бярэжцы, Вялікае Малешава, Запясочча, Кароцічы, Рамель, Рубель, Цераблічы.

10. Лексика Полесья. Материалы для полесского диалектного словаря. – М.: Наука, 1968.

Прадстаўлены лексічныя матэрыялы, запісаныя ў населеных пунктах Альпень і Рубель.

11. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. – Мінск: Фонд фундам. дасл. Рэсп. Беларусь, Кам. геадэзіі пры Савеце Міністраў Рэсп. Беларусь, 1993. – Т. 1: Раслінны і жывёльны свет; 1994. – Т. 2: Сельская гаспадарка; 1996. – Т. 3: Чалавек; 1997. – Т. 4: Побыт; Т. 5: Семантыка, Словаўтварэнне. Нацiск.

Падборка лексікі па асобных тэмах з населеных пунктаў Запясочча і Луткі.

12. Ляшкевіч, І. Альпенскі дыялектны слоўнік / І. Ляшкевіч. – Альпень; Берасьце, 2004.

Дыферэнцыяльны слоўнік гаворкі в. Альпень.

13. Матэрыялы для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны // Беларуская мова і мовазнаўства: міжвуз. зб. – Мінск: Выд-ва БДУ, 1975. – Вып. 3. – С. 161–260; 1976. – Вып. 4. – С. 134–272; 1977. – Вып. 5. – С. 98–181; 1978. – Вып. 6. – С. 120–236; 1980. – Вып. 7. – С. 138–175; Вып. 8. – С. 120–188; Вып. 9. – С. 107–175; 1982. – Вып. 10. – С. 110–159.

Асобныя словы, запісаныя ў населеных пунктах Тураўшчыны: Вароніна, Верасніца, Запясочча, Малешаў, Старажоўцы, Тураў, Хільчыцы.

14. Никончук, М. В. Матеріали до лексичного атласу української мови (Правобережне Полісся) / М. В. Никончук. – Київ: Наукова думка, 1979.

Лексіка розных тэматычных груп (рэльеф, гідранімія, лес, метэаралогія, рыбалоўства, дзікія жывёлы і птушкі, насякомыя, сельскагаспадарчыя прылады, хатняя гаспадарка, пчалаводства, прадзенне і ткацтва і інш.), запісаная на тэрыторыі Тураўшчыны ў населеных пунктах Альпень, Давыд-Гарадок, Пагост, Рубель, Тураў, Чэрнічы.

Невялікая колькасць слоў, запісаных на Тураўшчыне, падаецца ў манаграфіях (часткова ў суаўтарстве) М. В. Ніканчука: Сільскогосподарська лексика Правобережного Полісся (Київ, 1985); Будівельна лексика Правобережного Полісся в лексико-семантичній системи східнослов'янських мов (Житомир, 1990), Транспортна лексика Правобережного Полісся в лексико-семантичній системи східнослов'янських мов (Київ, 1990), Назви одягу та взуття Правобережного Полісся (Житомир, 1998).

15. Никончук, М. В. Лексичний атлас Правобережного Полісся / М. В. Никончук. – Київ; Житомир: Незалеж. ін-т екології Полісся, 1994. – 418 с.

У атласе прадстаўлена лексіка, запісаная ў наступных населеных пунктах Тураўшчыны: Альпень, Давыд-Гарадок, Пагост, Рубель, Сямурадцы, Тураў, Чэрнічы.

16. Общеславянский лингвистический атлас. Сер. лексико-словообразовательная. – М.: Наука, 1988. – Вып. 1: Животный мир; Warszawa: Ин-т пол. яз. ПАН, Ун-т в Белостоке, 2000. – Вып. 2: Животноводство; Минск: Ин-т языкознания НАН Беларуси, 2000. – Вып. 3: Растительный мир; Братислава: Ин-т языкознания САН, 2012. – Вып. 4: Сельское хозяйство; М.: Ин-т рус. яз. РАН, 2007. – Вып. 6: Домашнее хозяйство и приготовление пищи; Warszawa: Ин-т пол. яз. ПАН, 2003. – Вып. 8: Профессии и общественная жизнь; Kraków: Ин-т пол. яз. ПАН, 2009. – Вып. 9: Человек; М.; СПб.: Нестор-История, 2015. – Вып. 10: Народные обычаи.

Падаюцца лексічныя матэрыялы з населенага пункта Запясочча на Тураўшчыне.

17. Пашкевіч, М. І. Рубельскі лексіка-фразеалагічны слоўнік / М. І. Пашкевіч. – Брэст: Выд-ва БрДУ, 2008.

Матэрыялы для дыферэнцыяльнага дыялектнага слоўніка в. Рубель.

18. Пашкевіч, М. І. З лексікі рубельскай гаворкі / М. І. Пашкевіч // Беларуская дыялекталогія: матэрыялы і даследаванні. – Мінск: Беларус. навука, 2014. – Вып. 3. – С. 104–109.

Падборка лексікі з в. Рубель, якая адсутнічае ці падаецца з іншым значэннем у адпаведным слоўніку (гл. п. 17).

19. Рагаўцоў, В. І. З лексікі в. Пагост Жыткавіцкага раёна / В. І. Рагаўцоў, М. А. Саскевіч // Жывое слова. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978. – С. 122–128.

Пераважная большасць слоў, запісаных у в. Пагост, пазней трапіла ў «Тураўскі слоўнік».

20. Самуйлік, Я. Р. Гаворкі Выганаўскага Палесся. Лінгвістычны атлас для студэнтаў філалагічнага факультэта ўніверсітэта / Я. Р. Самуйлік. – Брэст: БрДУ, 2009.

Выкарыстаны параўнальны лексічны матэрыял з Тураўшчыны, запісаны М. А. Саскевічам у в. Пагост.

21. Самуйлік, Я. Р. Атлас гаворак Выганаўскага Палесся / Я. Р. Самуйлік. – Брэст: Выд-ва БрДТУ, 2013.

У якасці параўнальнага матэрыялу прыводзіцца лексіка в. Пагост на Тураўшчыне, запісаная М. А. Саскевічам.

22. Саскевіч, М. А. Яшчэ з лексікі вёскі Пагост Жыткавіцкага раёна / М. А. Саскевіч // Народная словатворчасць. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979. – С. 94–103.

Пераважная большасць слоў пазней была ўключана ў «Тураўскі слоўнік».

23. Саскевіч, М. А. З лексікі вёскі Пагост (Жыткавіцкі раён) / М. А. Саскевіч // Тураўшчына: мінулае, сучаснасць, будучыня. – Тураў; Мінск: Тэхнапрынт, 2001. – С. 60–73.

Дадаткі да «Тураўскага слоўніка».

24. Tarnacki, J. Studia porównawcze nad geografią wyrazów (Polesie – Mazowsze) / J. Tarnacki. – Warszawa, 1939.

У сетку атласа, уключанага ў манаграфію, увайшоў населены пункт з Тураўшчыны – в. Цераблічы, з якога падаецца лексічны матэрыял.

25. Тураўскі слоўнік / склад.: А. А. Крывіцкі, Г. А. Цыхун, І. Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982. – Т. 1, 2; 1984. – Т. 3; склад.: А. А. Крывіцкі [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1985. – Т. 4; склад.: А. А. Крывіцкі [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1987. – Т. 5.

26. Яшкін, І. Я. Словы з наваколля і самой Тураўшчыны / І. Я. Яшкін // Жывое наша слова. – Мінск: Беларус. навука, 2001. – С. 191–211.

«Словы нашай падборкі не ўваходзілі ў склад картатэкі Тураўскага слоўніка і мікраатласа Тураўшчыны» (с. 191).

# АПЫТАЛЬНІК
## лінгвістычнага мікраатласа Тураўшчыны (ЛМТ)

**АНАМАСТЫКА**

[ТЭМА № 1]. **Уласныя назвы аб'ектаў**

1. Вёска (сяло)
2. Часткі вёскі (сяла)
3. Старыя калодзежы
4. Рэчка
5. Затоны на рэчцы
6. Глыбокія мясціны на рэчцы
7. Перамелы (мелкія мясціны) на рэчцы
8. Ручаі, пратокі
9. Азёры
10. Копані
11. Балоты
12. Перадолы (даліны)
13. Павышэнні, узгоркі
14. Груды, пясчаныя грады
15. Лясы
16. Розныя мясціны ў лесе, часткі лесу
17. Палі
18. Сенажаці
19. Пашы, выганы, дзе збіраюць скаціну
20. Летнія стойлы для скаціны, кашары
21. Брады, старыя масты
22. Курэні ў лесе
23. Рудніцы
24. Курганы
25. Паасобныя прыкметныя дрэвы.

[ТЭМА № 2]. **Асабовыя назвы**

1. Прозвішчы патомных мясцовых жыхароў вёскі

2. Як называюць па-мясцоваму мужчыну, які мае афіцыйнае імя Іван або Пётр, Павел, Мікалай, Аляксандр, Фёдар (напрыклад, жонка мужа)?

3. Як называюць малых хлопчыкаў, якія маюць адзначаныя вышэй імёны (напрыклад, маці)?

4. Як называюць па-мясцоваму жанчыну, якая мае афіцыйнае імя Ганна або Дар'я, Еўдакія, Екацярына, Меланння, Параскева, Таццяна, Ульяна (напрыклад, муж жонку)?

5. Як называюць малых дзяўчынак, якія маюць адзначаныя вышэй імёны (напрыклад, маці дачку)?

6. Ці называюць жонку паводле імя мужа і як утвараюцца такія асабовыя назвы (прыклады)?

7. Ці называюць сына паводле імя бацькі (ці маці) і як утвараюцца такія асабовыя назвы (прыклады)?

8. Ці называюць дачку паводле імя бацькі (ці маці) і як утвараюцца такія асабовыя назвы (прыклады)?

9. Назвы жыхароў вёскі «па-вулічнаму» (родавыя прозвішчы-празванні)

10. Найбольш цікавыя «ганьбы» (мянушкі) вясковых мужчын (з тлумачэннем)

11. Найбольш цікавыя «ганьбы» (мянушкі) вясковых жанчын (з тлумачэннем)

12. Назвы жыхароў вёскі (сяла) паводле яе ўласнай назвы

13. Назва аднаго мужчыны паводле ўласнай назвы вёскі (сяла)

14. Назва адной жанчыны паводле ўласнай назвы вёскі (сяла)

15. Да якой мясцовай групы насельніцтва адносяць сябе жыхары вёскі – палешукоў, замшукоў, літвякоў ці інш.?

[ТЭМА № 3]. **ФАНЕТЫКА**

**Як вымаўляюць?**

1. лес, ле$^{і}$с ці ліс?
2. ле́то, ле́$^{і}$то ці лíто?
3. чолове́к, чолове́$^{і}$к ці човіло́к? 
4. дай мне, мне$^{і}$, мні ці дай мені́?
5. недзе́ля, недзе́$^{і}$ля ці нэді́ля?
6. кот, ко$^{у}$т, кут, кіт?
7. вол, во$^{у}$л, віл?
8. го́ркі, го́$^{у}$ркі, гі́ркі?
9. жо́нка, жо́$^{у}$нка, жі́нка?
10. вон (во$^{у}$н, він) прынёс, прынё$^{ю}$с, прыні́с?
11. то́лькі, то́$^{у}$лькі, ті́лькі, ты́лькі?
12. мёд, мед, мьёд, мэд?
13. цёмная ноч (но$^{у}$ч, ніч) або це́мна, тэ́мна?
14. зелёны, зеле́ны ці зэлэ́ны?
15. далёко, дале́ко ці далэ́ко?
16. овёс, ове́с, оўёс, оўё$^{ю}$с, овэ́с?
17. хлеў ці хлёў?
18. ве́цер ці ве́$^{і}$цёр?
19. жэна́ты ці жона́ты?
20. жолу́дзь ці жэлу́дзь?
21. пчэла́, пчола́ ці пшчола́?
22. жэло́, жоло́ ці жорло́?
23. чэсны́к ці чосны́к?
24. очэмрэ́ў ці очомрэ́ў?
25. чому́ ці чэму́?
26. ве́чэр ці ве́чор (вэ́чор, ва́чор)?
27. вялíке о́гнішчэ ці во́гнішчэ?
28. боля́ць о́чы, во́чы ці го́чы?
29. о́сень, во́сень ці го́сэнь?
30. на́ша у́ліца, ву́ліца ці гу́лыця?
31. у окно́, у вокно́, у гокно́?
32. ону́ча ці гону́ча?
33. он, вон, во$^{у}$н, ён, він?
34. она́, вона́, ена́?
35. оны́, воны́, ены́?
36. во́стры нож, о́стры но$^{у}$ж ці го́стры?
37. ніво́дного нема́, ніго́дного ці жо́дного?
38. э́той год, гэ́той ці е́той?
39. мы по́йдом, му по́йдом ці мі по́йдом?

40. вы пóйдзеце, ву пóйдзеце, ці ві пóйдзеце?
41. помы́ла подлóгу (пудлóгу), пому́ла подлóгу ці помíла?
42. пыл, пул ці піл?
43. пошлí по грыбы́, по грыбу́ ці по грыбí?
44. ву́пі молокá, вы́пі ці вíпі?
45. вы́кінулі вон, ву́кінулі ці вíкінулі?
46. вы́скоркі, ву́скоркі ці вíскоркі?
47. бы́стры (конь), бу́йстры ці бíстры?
48. лецíць ву́соко, вы́соко ці вíсоко?
49. мáбыць нéхто ідзé ці мáбуць, мáбіць, нáбудзь?
50. целя́ мы́кае, му́кае ці мíкае?
51. дзéрэво, дéрэво ці дэ́рэво?
52. ходзíлі, ходíлі ці ходы́лы?
53. мой дзя́дзько ці дя́дько?
54. цепéр, тепéр, тэпэ́р ці топéр?
55. цíхо, тíхо або ты́хо?
56. пяць годóў ці пьяць?
57. мя́со ці мья́со?
58. рэ́чка ці рéчка?
59. тры дні ці трі?
60. дзеру́жка ці дзерю́жка?
61. шáпка ці шя́пка?
62. шы́шэчка ці шíшечка?
63. чы́ста водá ці чíста?
64. печ, ноч ці печь, ночь?
65. жáбер ці жя́бер?
66. жы́жка ці жíжка?
67. веслó, вэслó ці васлó?
68. веснá, вэснá ці васнá?
69. песóк, пэсóк ці пасóк?
70. метлá, мэтлá ці матлá?
71. верэ́нька, вэрэ́нька, варэ́нька?
72. верóўка, ворóўка, варóўка?
73. перэплóў рэ́ку, пэрэплóў ці параплóў?
74. порохóд ці перэхóд?
75. сóўнечнік ці сóўнешнік?
76. я́чны ці я́шны?
77. смáчно ці смáшно?
78. ужэ́ (ужó) прыéхаў ці угэ́ прыé[і]хаў?
79. што рóбіш, шо рóбіш ці шчо рóбіш?
80. ведрó цечэ́ ці чэчэ́?
81. цéшча ці чэ́шча?
82. кáжны год прыежджáе ці прыеждáе?
83. содрáў кору́ ці зодрáў кору́?
84. усé я́блука собрáў ці ўсе я́блука зобрáў?
85. ідзí сорві я́блок ці ідзí зорві я́блок?
86. усю́ пшэніцу жжáлі, сожáлі ці зожáлі?

[ТЭМА № 4]. **МАРФАЛОГІЯ**

**У якой форме (з якім канчаткам) ужываецца слова?**

1. Вон жыў одзíн, у ёгó не булó своé... (сем'я)
2. Два гектáры (дзве дзесецíны)... (земля́)

3. Трэ́ба «спросі́ць» у стары́х дзедо́ў і... (бабы́)
4. У селе́ ма́ло стары́х... (ха́ты)
5. Огоро́д ора́лі... (конь)
6. Ку́ра соко́чэ (сокоры́ць), ек вона́ з... (яйцэ́)
7. Охо́тнік хо́дзіць на охо́ту з... (руж'е́)
8. Понапуха́ло, сі́не под... (о́чы)
9. Конь слу́хае... (у́шы)
10. Стрэ́ўса с чужы́мі... (лю́дзі)
11. Грыбу́ не росту́ць на по́лі, а ў... (лес)
12. На́сморк, кру́ціць у... (нос)
13. Мі́са стоі́ць на столе́, на само́м... (край)
14. Ходзе́м у я́годы, ... (Ва́ля, На́дзя, Га́ля)
15. Старэ́ ведро́ чэчэ́, трэ́ба купі́ць... (но́вы)
16. Ек побе́ляць полотно́, то вонэ́... (бе́лы)
17. Садо́ва гру́ша сма́чна, а дзі́ке я́блуко... (несма́чны)
18. Вон сам не з на́шого села́, а браў жо́нку ў... (на́шэ село́)
19. Побудова́ўса ў концэ́ села́, на... (хоро́шэ ме́сто)
20. Перэвезі́ его́ с того́ бе́рэга на... (гэ́ты)
21. Дождж ліў усю ноч і... (усе́й дзень)
22. Усе́ жо́нкі жа́лі, і вона́ жа́ла ра́зом з... (усі́)
23. Болі́ць у его́ под... (гру́дзі)
24. Ле́том е́здзяць во́зом, а зімо́ю... (са́ні)
25. До́брые халя́ву ў твоі́х... (чо́боты)
26. Дай мне обу́ць твоі́х гумо́вух (разі́новух)... (чо́боты)
27. Наследзі́ў своі́мі... (чо́боты)
28*. За́рэ на боло́ці хо́дзім у гумо́вых... (чо́боты)
30. Воро́та зачы́нены, а коро́ва стоі́ць под... (воро́ты)
31. Му ро́бім, а вон гуля́е, ні́як не хо́чэ... (робі́ць, робі́ц...)
32. Гу́сі дале́ко́ по рэцэ́ могу́ць... (заплы́ць, заплу́ць...)
33. Вон до́брэ пла́вае, вон на той бе́рэг рэкі́ без ло́дкі (на са́жкі)...
(перэплы́ў, перэпло́ў...)
34. Я не ба́чыў і не чуў, могу́ побожы́цца і... (поклясці́са, поклесці́са)
35. Заво́шчо ты его́ так га́ніш і... (клясці́)
36. Сцемне́ло, поча́лі лету́чые му́шы... (лёта́ць, ле́тацъ, лета́ць...)
37. До́ждж бу́дзе, ла́стоўкі ні́зко... (лета́ць)
38. Дро́ва пі́ло́ю... (рэ́жуць, пілу́юць...), соке́рою...(секу́ць, сечу́ць...), то́ўстые поле́на... (ко́люць, б'юць...)
39. Ка́шу, булён, борщ у печэ́... (ва́рацъ), карто́плі свіньям у печэ́... (па́рацъ), млінцэ́ на сково-родзе́... (пеку́ць, печу́ць...), са́ло на сковородзе́... (сма́жаць, печу́ць...), цёртые карто́плі ў го́р-шчыку... (сма́жаць...), карто́плі, порэ́заные скрылька́мі ў го́ршчыку... (ту́шаць...)
40. Натомі́ласа, ся́ду гро́шкі... (поседзе́ць)
41. Пойду́, тэ, шо не докосі́ў, ... (докосі́ць)
42. Дзе́ці, ці́хо, не дурэ́йце, шу́му не... (робі́ць), мо́цно не... (крыча́ць)
43. Часы́ на сцене́... (ві́сець)
44. І не сме́шно, а вон... (смее́цца ці смеі́цца)
45. Воны́ з его́... (смею́цца ці смея́цца)
46. Му ўчо́ро на па́шу корову́... (гоні́лі ці гоня́лі)
47. Я свою́ коро́ву на па́шу цепе́р не... (погоню́ ці пожэну́)
48. Пасту́х корову́ на па́шу... (жэне́ ці го́ніць)
49. Шо вон каза́ў, то й я... (кажу́, кагу́, ку...)
50. Слу́хаць нема́ чого́, шо вон... (ка́жэ, ка́ге, ка...)

* Пытанне 29 у Апытальніку адсутнічае.

51. Ве́цёр мо́цно ў окно́... (дзме, ду́е, ду́не...)
52. Устава́й, го́дзі... (ты спаў ці тобе́ спаць)
53. Моя́ до́чка ходзіла по я́годы тры... (раз ці ра́зы)
54. Мешо́чок два... (пу́ды, пуд), а мешо́к п'яць... (пу́ды ці пуд)
55. Шо ў цебе́ болі́ць... (дзе́тко ці дзе́ткі)?

**ЛЕКСІЧНЫ СКЛАД**

[ТЭМА № 5]. **Фізічныя з'явы**

1. Як называюць летняе надвор'е, калі суха і вельмі паліць сонца? ва́ра, спёка, жара́...
2. Як называецца дажджлівая пагода? него́да, нена́сьце...
3. Як называецца вельмі вялікі дождж? ле́я, уле́я, залі́ва...
4. Як называюцца пухіры на вадзе, якія ўскокваюць у дождж? бу́лькі, бу́льбаўкі, бу́льбахі...
5. Як называюцца дробненькія пухірчыкі, якія паднімаюцца з дна, калі паварушыш мул? жму́ры́, бу́лькі...
6. Як называецца зямля, перамешаная з вадою (на дарозе пасля дажджу)? кал, гразь...
7. Но́гі покалі́ў ці загра́зьніў?
8. Як называецца каляровая дуга на небе пасля навальніцы?
9. Як называецца светлая хмарка на небе летам? по́м'яг, по́хмарок...
10. Як называецца невялікая яма з вадою на лузе? ка́верт, ка́верць, верце́б...
11. У зато́не не мі́лко, а ... (глы́бко ці глыбо́ко)
12. Ек не ўме́еш пла́ваць, то на рэцэ́ мо́жэш... (пота́ць ці потону́ць)
13. Як называецца белае ўбранне дрэў у марознае ціхае надвор'е?

[ТЭМА № 6]. **Раслінны свет**

1. Як называюцца летнія грыбы (козлякі́), якія растуць на грудах па хвойніках, жоўценькія, не бываюць чарвівыя? смоля́нкі, жо́ўцікі...
2. Як называецца грыб (козля́к) на высокай ножцы з шэрай або светлай шапкай, які расце па маладых бярэзніках? ба́бка, оба́бок...
3. Як называецца вялікая сям'я грыбоў у адным месцы? шэрэ́н, чэрэ́н...
4. Як называюцца грыбы (козлякі́), якія не збіраюць і не ўжываюць? вужо́вікі, жабо́вікі...
5. Ву́росла велі́ка гарбу́за ці велі́кі гарбу́з?
6. Як называецца вязка цыбулі на шнурку? вено́к, плецёнка, нізо́лка, коса́нка...
7. Як называюцца ягады, якія ходзяць збіраць на балота? журахвіны, журахлі́ны...
8. Як называюцца чырвоныя ягады, якія растуць па краях балота? брусленіцы, брушленіцы...
9. Як называюцца кіслыя чырвоныя ягадкі, якія трапляюцца ў лесе паасобнымі шыпячкамі ў жніўні? каменіцы, касценіцы...
10. Як называецца расліна (пустазелле), што расце ў жыце і ў ярыне і цвіце сінімі кветачкамі? воло́шка...
11. Як называецца водная расліна з доўгімі вузкімі лістамі і пахучым тоўстым коранем? плешнік, лепешнік, лепеха́...
12. Як называецца расліна, што расце каля платоў і пячэцца, як дакранешся да яе? проківа, броківа...
13. Як называюць кіслыя лісты, якія збіраюць у траве для варыва? шча́ўе, квасліны...
14. У гу́сок, шо росту́ць у водзе́, бе́лые... (кве́ткі, цветы́)
15. У рого́за е чо́рные... (кі́цехі, буехі́...)
16. Як называецца смаловае дрэва з доўгімі іголкамі замест лісця? смолі́на, хвоіна...
17. Як называецца слабая гнілаватая драўніна? бердзева́тая, жэбердзева́тая...
18. Як называецца нарасць на ствале дрэва? баку́ла, могу́ла, гу́ла...
19. Як называецца самы верх у дрэве? ві́льчык, шчык...

[ТЭМА № 7]. **Жывёльны свет**

1. Якім выгукам адганяюць свіней?
2. Якім выгукам адганяюць парасят?

3. Якім выгукам падклікаюць свіней?
4. Якім выгукам падклікаюць парасят?
5. Якім выгукам адганяюць цяля?
6. Якім выгукам падклікаюць сабаку?
7. Якім выгукам адганяюць ката?
8. Кот мушэ́й до́брэ ўме́е... (лова́ць ці лові́ць)
9. Свінн̄я ў хлеве́ ў саломе робіць сабе... (берэло́г, коўпоці́ло)
10. Як называюць унутранасці ў жывёл? пля́хі, вантро́бы...
11. Як называецца невялікі звярок, пакрыты калючкамі? е́жык, во́жык...
12. Як называецца маленькая жывёліна, якая мае скураныя крылы і лётае па вечарах?
13. Як называюцца свойскія і дзікія вадаплаўныя птушкі, меншыя за гусей? ву́твы...
14. Як называецца самец у качак? вуця́к, селезён, се́лег, ка́чур...
15. Як называюцца свойскія птушкі, падобныя да курэй, але значна большыя за іх? анды́кі, янды́кі...
16. Як называецца курыца, якая спявае і паводзіць сябе, як певень? кура́к, кура́ч, кур'я́н...
17. Якім выгукам адганяюць курэй?
18. Як называецца птушка, падобная да вароны, але большая за яе?
19. Як называецца птушка, падобная да вароны, але меншая за яе?
20. Як называецца невялікая птушачка, якая жыве ў полі і добра спявае, узвіваючыся высока ў неба? жа́рворонок, жа́йворонка...
21. Як называецца невялікая шэрая птушачка, якая жыве ўсюды каля людзей? воробе́йко, конопля́нік, чво́роб...
22. Ку́ра зе́рнеты дзю́бою... (клюе́, дзеўбе́)
23. Дзя́цёл дзе́рэво дзю́бою... (дзеўбе́, доўбе́)
24. Як называецца курынае яйка без цвёрдай шалупіны? чу́чырэпок, ву́левок...
25. Як называецца тупы канец у яйку?
26. Як называецца рыба з зубатай пашчай, якая жывіцца другімі рыбамі? кожу́шка...
27. Як называецца рыба, падобная да со́ма, але невялікая па памеры? ро́пуха, менёк...
28. Як называецца цвёрдае покрыва на целе рыбы? кора́, луска́...
29. Поба́ч, у цебе́ на ву́ду ры́ба ўжэ поча́ла... (то́ркаць, ёрзаць)
30. Як называюцца круглыя дубцы ў жаку, на якія нацягнута сетка? каблукі́, облукі́, облучы́...
31. У траве поўзаюць ра́зные чэрвякі́ і ... (козу́лькі, кузу́ркі)
32. Як называецца мурашынае гняздо (кубло́), гура смецця, у якой яны жывуць?
33. Як называецца невялікі жучок з чырвонымі або жоўтымі крыламі, з чорнымі кропачкамі?
34. Як называюцца дробныя кусачыя мошкі? муско́ль, мра́га...
35. Як называюцца чарвякі, якія точаць бярвенне ў пабудовах?
36. З ікры жаб выходзяць... (шуполо́нікі, пра́чыкі...)
37. У боло́ці ў нагу можа упіцца... (п'еўга́, п'я́віца)
38. Вадзяныя істоты, якія жывуць у рэчцы ў чарапочках, падобных да начовачак? скоролю́шкі, скра́жкі...

[ТЭМА № 8]. **Чалавек**

1. До нас прышо́ў не́кі чужы́ чолове́к ці не́ка чужа́ люды́на?
2. У ее́ ўсе ў пора́дку ў ха́ці, она́ до́бра... (господы́ня, хозя́йка)
3. Як называюць сястру мужа? зові́ца...
4. Як называюць сына брата? брата́ніч, сыно́вец...
5. Як называюць сына сястры? сестры́нец, сестры́чыч...
6. Як называюць дачку сястры? сестры́чына, доча́ніца...
7. Як называюць дачку брата? брата́нка...
8. Як называецца сын роднага дзядзькі? стрэ́дні брат...
9. Ці ўжываюцца ў зваротах жанчын адна да адной словы ге́йка, та́йка?
10. У цебе́ порва́ласа соро́чка і го́лэ... (це́лесо, це́ло) відно́

11. Отсе́дзе́ла но́гу́, нога́... (закля́кла, замле́ла...)
12. Паму́ласа, паму́ла ру́кі і... (від, твар...)
13. Вона́ засаро́мелаcа і ў ее́ почырвоне́лі... (мо́рды)
14. О́ко закрыва́е... (ве́я, ве́йка)
15. Як скажуць, калі чалавек вельмі ўглядаецца ў каго: вон на цебе́ о́чы...
16. Як скажуць, калі чалавек прыплюшчвае вочы: вон о́чы...
17. У ёго́ шчэ нема́ ніго́дное сіво́е... (косі́на, волосі́на)
18. Як азначаецца чалавек, які дрэнна выгаворвае словы? гарка́вы...
19. Як называецца вадзяны пухір ад працы на руках або ад хадзьбы на нагах? му́ля́к, му́ле́нік...
20. Як называецца сіняе ўздуцце на целе ад удару? чэрня́к...
21. Як называецца дзіцячая хвароба з вачэй? подзі́ў, уро́кі...

[ТЭМА № 9]. **Дзейнасць**
1. Затрымлівацца доўга: шось вон там до́ўго... (ба́віцца, бары́цца)
2. Такі́ ўжэ́ чолове́к, вон ніко́му добра́ не... (бажа́е, зы́чыць)
3. Праяўляць клопат: ко́жна ма́цер свое́ дзіця́... (шкоду́е, жалку́е)
4. Одне́ згубі́ў, а дру́ге... (знайшо́ў, найшо́ў)
5. Поку́ль я збіра́ласа, так оны́ онь дзе... (опуні́ліса, опуну́ліса)
6. Така́ гразь, шо не мо́жно до села́... (доста́цца, добра́цца)
7. Як называюць такі дзень, калі не робяць, а адпачываюць і гуляюць? свято́к, сьето́к, сето́к...
8. У недзе́лю у Городку́ на база́ры велі́кі... (ге́ндзель, ге́ндэль)
9. У магазі́ні так не беру́ць, а за гро́шы... (купу́юць, купля́юць)
10. Вон з на́мі за стол не ся́дзе, вон на́мі... (груміча́е)
11. Калі дрэнным словам называюць каго, то гэта... (га́няць...)
12. Даводзіць да смеху дакрананнем да цела пад пахамі: лоскота́ць, шылько́чыць...
13. Насіцца, бегаць без справы: галя́ць, го́йсаць...
14. Як называецца месца, дзе слізка зімою, дзе дзеці возяцца на саначках, на каньках?
15. Нічога не рабіць, пазбягаць працы, бяздзейнічаць: байдыкова́ць, лайдакова́ць...
16. Так спалохаўся, што стаў і... (обопне́ў, остропе́ў...)

[ТЭМА № 10]. **Адносіны да рэчаіснасці**
1. Як сцвярджальна адказаць на пытанне, ці пойдзеш ты па грыбы (па ягады, у клуб і г. д.)? – Але́, пайду́ (ага́, агы́...)
2. Якім словам абазначаюць абыякавасць? – Мне голова́ болі́ць, а дзе́ці дурэ́юць, ім... (байду́жэ...)
3. Ба́цько чытаць тро́ху умеў, а пі́са́ць не ўмеў... (зоўсі́м, соўсё́м...)
4. Так спужа́ўса, шо ажно́ (ажны́, ажні́...) побеле́ў
5. Вон не то, шо говоры́ць, вон на́вэць (на́вет, на́ве...) і ду́маць про тэ не хо́чэ
6. Наволока́е, на́будзь (ма́буць, ма́йбіць...) дождж бу́дзе
7. Ні́яка жы́тка була́... (ко́лі́сь...)
8. Ко́лькі я спаў? Спаў (до́кі, доку́ль, за́кі, за́кіль...) ву́спаўса
9. До нас ву пры́ехалі не другі́, а... (пе́рвы, пе́ршы) раз
10. Пасля дзесяці будзе... (одзіна́нцаць, двана́нцаць)
11. Поста́ў глады́шку не там, а... (гэ, гэ́тта, го́ндэ...)

[ТЭМА № 11]. **Прадметны свет**
1. Месца, дзе пілуюць і колюць дровы
2. Прылада, па якой узлазяць на гару (гарышча)
3. Дошка, якой закладалі ніз пад варотамі
4. Майстэрня, дзе раней часалі воўну
5. Прылада, да якой прывязвалі кудзелю пры прадзенні
6. Як называецца пыл ад кудзелі лёну пры прадзенні

7. Прылада, на якой ткуць кросны
8. Кош у рэшаце, у сявеньцы
9. Машына на двух колах, на якой едуць, круцячы педалі нагамі
10. Рэчыва, якое палілі ў лямпе для асвятлення
11. Невялічкая лямпачка без шкла
12. Металічны цяж ад канца пярэдняй восі да сярэдзіны аглаблі
13. Частка збруі, пры дапамозе якой кіруюць у возе канём
14. Вяровачкі ў лапцях, пры дапамозе якіх яны падвязваліся да ног
15. Мужчынскі гарадскі галаўны ўбор
16. Скураны абутак з доўгімі халявамі
17. Трэсачка, якая ўбілася ў нагу, у руку
18. Ногу́ стрэ́мкой (ске́пкой) мо́цно... (застрэмі́ў, заколо́ў)
19. Невялікая звязка рэчаў, якую нясуць у руцэ
20. Як мно́го нагрузіш на воз, то коню́ бу́дзе...
21. Даў коро́ві сена до́бры...
22. Шырокая шкляная пасудзіна з крышкай...
23. Мяшочак, у якім выціскаюць сыры
24. Уваход у сярэдзіну печы, дзе гараць дровы
25. Спецыяльныя паглыбленні звонку ў печы, куды кладуць сушыць рукавіцы
26. Як добра напаліш, то ў печы...
27. Печ к святу, каб была белая, трэба...
28. Прылада, якой выграбаюць з печы жар
29. Прылада, якой вымаюць з печы скавароды
30. Месца каля печы для гаспадыніных прылад
31. Вялікая лыжка для разлівання стравы
32. Металічная пасудзіна для варкі стравы (падобная да гаршка)
33. Хлеб, калі ён доўга ляжыць, робіцца...
34. У булцы хлеба зверху цвёрдая...
35. Ма́цер росколоці́ла мукі́ і почала́ на сковородзе́ пекці́...
36. Юшка, якую вараць са свіных ног і потым студзяць, каб застыла
37. Свінны страўнік, начынены крышаным мясам.

[ТЭМА № 12]. **Звязка сцяблоў раслін пры ручной уборцы**
1. Жыта, пшаніцу, ячмень вяжуць у...
2. Авёс вяжуць у...
3. Проса вяжуць у...
4. Грэчку вяжуць у...
5. Лён вяжуць у...
6. Каноплі вяжуць у...
7. Боб вяжуць у...
8. Чарот вяжуць у...
9. Мак вяжуць у...
10. Лекавыя травы вяжуць у...

[ТЭМА № 13]. **Дзеянне па драбненню прадуктаў нажом**
1. Што можна зрабіць нажом з булкай хлеба?
2. З караваем на вяселлі?
3. З кавалкам сала, мяса?
4. З качаном капусты?
5. З бураком?
6. З бацьвіннем?
7. З ачышчанай бульбай?

8. З пер'ем цыбулі?
9. З яблыкамі (для сушкі)?
10. З лыкамі?
11. З пальцам (незнарок)?

[ТЭМА № 14]. **Апрацоўка глебы плугам**
1. Як скажуць, калі апрацоўваюць плугам цаліну (дзірван) першы раз?
2. Ворную зямлю вясною першы раз?
3. Ворыва другі раз?
4. Поле пасля ўборкі зерневых восенню?
5. Бульбянік пасля ўборкі бульбы?

[ТЭМА № 15]. **Апрацоўка глебы бараной**
1. Як скажуць, калі апрацоўваюць бараной ворыва першы раз?
2. Ворыва другі раз?
3. Восеньскае ворыва вясной?
4. Поле пасля засеву збожжам?
5. Бульбу, як узыходзіць?
6. Бульбянік пасля ўборкі бульбы?

[ТЭМА № 16]. **Паводзіны жывёл, птушак і іншых істот у стане веснавога ўзбуджэння**
1. Як скажуць, калі гуляе з самцом (бугаём) карова?
2. Кабыла?
3. Свіння?
4. Авечка?
5. Каза?
6. Кошка?
7. Сука?
8. Ваўкі?
9. Лісы?
10. Зайцы?
11. Певень (з курамі)?
12. Качар?
13. Гусак?
14. Бусел?
15. Рыбы?
16. Жабы?
17. Вужы?
18. Пчолы?
19. Камары?

[ТЭМА № 17]. **Прывядзенне прыплоду**
1. Як кажуць, калі прывяла карова цяля?
2. Кабыла жарабя?
3. Свіння парасят?
4. Авечка ягнят?
5. Каза казлянят?
6. Сука шчанят?
7. Кошка кацянят?
8. Ваўчыца ваўчанят?
9. Лісіца лісянят?

10. Зайчыха зайчанят?
11. Ласіха ласяня?
12. Мыш мышанят?
13. Курыца куранят?
14. Качка качанят?
15. Гусь гусянят?
16. Буслы буслянят?
17. Верабʼі верабʼянят?

[ТЭМА № 18]. **Малако, яго віды, прадукты з яго**
1. Як называюць малако, надоенае перад цяленнем каровы (густая маса, якую здойваюць)?
2. Надоенае адразу пасля цялення?
3. Наогул толькі што надоенае?
4. Якое пастаяла, ахалодала, але яшчэ не стала кіснуць?
5. Якое пачало пракісаць?
6. Верхні адстой у кіслым малацэ?
7. Самы верх у адстоі?
8. Ніжні адстой у кіслым малацэ?
9. Адагрэтае кіслае малако?
10. Тое, што сцэджваюць з адагрэтага кіслага малака?
11. Прадукт з адагрэтага кіслага малака пасля яго адціскання пад грузам?
12. Кіпячонае салодкае малако?
13. Кіпячонае салодкае малако, заквашанае кіслым малаком?
14. Перагнатае на машыну малако (або адстоенае ў банках)?
15. Тлустая частка з перагнатага (адстоенага) малака?
16. Густое кіслае малако, якое застаецца ад смятаны пасля збівання масла, маслёнка?

[ТЭМА № 19]. **Працэс адзявання (апранання)**
1. Як кажуць: шапку на галаву трэба...
2. Хустку?
3. Сарочку?
4. Штаны?
5. Спадніцу?
6. Рукавіцы?
7. Боты (чо́боты)?
8. Лапці?
9. Панчохі?
10. Анучы?
11. Кажух?
12. Пальто?
13. Коўдру?
14. Хамут каню?

[ТЭМА № 20]. **Працэс гатавання розных прадуктаў на скаварадзе**
1. Сала на скаварадзе будзем...
2. Яечню?
3. Бліны?
4. Крышаную скрылькамі бульбу?
5. Гарох, боб?

[ТЭМА № 21]. **Крык курэй**
1. Як скажуць, калі курыца падае голас, ходзячы па двары, збіраючыся несціся?
2. Знёсшы яйка?

3. Хочучы сесці на яйкі і вывесці куранят?
4. Водзячы куранят?
5. Як скажуць, калі выкрыквае сваю песню певень?

[ТЭМА № 22]. **Словаўтваральны выгляд груп слоў**
1. Зарасці бярозы: берэза́к, берэзня́к...
2. Зарасці дубкоў: дубня́к, дубні́к...
3. Зарасці асіны: осня́к, осні́к...
4. Зарасці маладняку іншых дрэў: смольня́к ці смо́льнік, лозня́к ці лозні́к...
5. Ручка ў граблях?
6. Шосцік у касе?
7. Ручка ў вілках (вілах)?
8. Прут (дубец) у вудзе?
9. Вельмі доўгі: доўжэ́лны, доўжэ́зны...
10. Вельмі добры?
11. Вельмі здаровы?
12. Вельмі высокі?
13. Вельмі мокры?
14. Вялікая нязграбная карова: короўзно́...
15. Вялікі сабака?
16. Вялікая свіння?
17. Вялікі чобат?
18. Павелічальна-ганьбуючыя назвы людзей: дзеўзно́, жонзно́, дочно́...

[ТЭМА № 23]. **Гукавы або словаўтваральны выгляд паасобных слоў**
1. А́йсцер ці га́йсцер?
2. Бэ́йбас ці ба́йбус?
3. Вэ́лень ці вэ́люм?
4. Вы́м'е ці і́м'е?
5. Дзыга́р ці джыга́р?
6. Долегу́е ему́ не́шчо ці долега́е?
7. Зозу́лька ці зоўзу́лька?
8. Зубе́ль ці зу́бленіца?
9. Коло́дзеж ці коло́дзедзь?
10. Лега́ць ці ложы́цца?
11. О́лупень ці ё́лупень?
12. Опле́н ці опле́нь?
13. Ске́мкаць ці ско́мкаць?
14. Суно́жаць ці сено́жаць?

[ТЭМА № 24]. **Ці ведаюць гэтыя словы ў адзначаным значэнні?**
1. Бага́зно (б. людзей)
2. Бе́рэст – ільміна
3. Бо́йло – бойка; нераст
4. Бро́хаць (б. па вадзе)
5. Буркова́ць (б. гусей)
6. Волоха́ты – кучаравы
7. Ву́гледка – люстэрка
8. Гологу́цкі (г. певень)
9. Га́пка – човен
10. Гі́рка – чуб
11. Глу́посць – глуш

12. Го́голь да вода́ (пра разліў)
13. Гу́весна – сустрэча вясны
14. Дале́зно – вельмі далёка
15. Дзе́рэш – масць каня
16. Додзева́ць – дакучаць
17. Дожджэ́ліца – лівень
18. Доро́дны – статны
19. Дрові́ца – першацёлка
20. Ду́біць – цягнуць
21. Зато́б (з. упаў)
22. І́буць – птушка бугай
23. Клочэні́к – анучнік
24. Кра́мень – крэмень
25. Красну́ць (к. весна)
26. Кромі́ць (к. хвою)
27. Кроп – вар
28. Колода́н – гаспадарчы нож
29. Колува́цца – вагацца
30. Коно́зіцца – капрызнічаць
31. Ксень – страўнік шчупака
32. Купа́ло – купальскі касцёр
33. Купе́ць – гарэць без полымя
34. Лобу́зье – буйныя сцяблы
35. Лоша́к – малады конь
36. Лошы́ца – маладая кабыла
37. Ма́хіны – вялікі
38. Ме́рва – гушчар
39. Мога́йбо – пажаданне
40. На́глы – высокі
41. Негі́пта (егі́пта) – непраходнае месца ў балоце
42. Ога́знуць – асіпнуць
43. Осто́пок – атопак
44. Очо́мацца – ачухацца
45. По́ўрэй – вырай
46. На про́весні – увесну
47. Пры́кры – круты
48. Сутоне́ць – цямнець
49. То́рок – звярыны праход
50. Тры́зна – памінкі
51. Ту́булец – мясцовы жыхар
52. Ту́луб – тулава
53. Ту́мно – млосна
54. Шча́вер – шчаўе
55. Я́па – нарасць
56. Яру́га – вялікая лужына
57. Я́цель – вузкая прастора.

[ТЭМА № 25]. **Ці ведаюць гэтыя словы і што яны абазначаюць?**
1. Аршэ́нец
2. Баба́к
3. Бабе́ць
4. Бабкова́ты

5. Ба́грэно
6. Беке́за
7. Блага́ць (вон блага́е)
8. Бо́рушно
9. Вага́н
10. Вагку́шы
11. Ва́лево (я́год ва́лево)
12. Ве́но
13. Весе́лік (птушка ці грыб?)
14. Гаму́лка
15. Га́нуць
16. Гнеч (гне́ча)
17. Грэ́чыць (ему́ грэ́чыць)
18. Дзевелі́ць (шо ты дзевелі́ш?)
19. Дзерэза́
20. Дзеці́нец
21. Дзя́бліць (моро́з дзя́бліць)
22. Дра́хлы
23. Доўна́ць (лежы́ць і доўна́е)
24. Ду́рбаць
25. Ду́чка (дуча́йка)
26. Ды́евы
27. Дыгова́ць
28. Заво́р*
29. Жмодзь
30. Жу́дра
31. Жывото́к
32. І́скоцень
33. Ко́нік
34. Кучугу́рка
35. Лу́цік
36. Мурова́ць (пра мурашак, мух)
37. Му́ры (масць каня?)
38. Ніхве́ць (ніхрэ́ць)
39. Остаркова́ты
40. Осы́рыць
41. О́тчына
42. Ошву́рок
43. Пізікі
44. Пла́зкі
45. Пле́вень
46. Полея́сака
47. Пра́тва
48. Прыстрэ́к
49. Пу́тра
50. Рахамо́сцье
51. Ра́хацца
52. Свор (сво́рок)
53. Скача́г
54. Скверо́та
55. Скірга́

* Парушэнне алфавіта ў першапачатковым варыянце Апытальніка (рэд.).

56. Склецъ (вонó склéе)
57. Скóіцца
58. Скýгаць
59. Слýдба
60. Смуг
61. Спаёвáць (спалёвáць)
62. Спáтошыць
63. Стáчыць
64. Стром
65. Стры́га
66. Стýга
67. Супя́чыцца
68. Сцóўкнуць
69. Сядрóвы
70. Тай
71. Талінá
72. Тáловаць
73. Талогýніцца
74. Тóча
75. Трýпесок
76. Тупеніць
77. Ты́льня
78. Ты́ня
79. Уздрóіцца
80. Узóхмацца
81. Унýрыцца
82. Упікýліць
83. Урэ́м'е
84. Устрóпіцца
85. Утрóн
86. Ухаменýць
87. Цвак (птушка)
88. Цепéр
89. Цівóся
90. Цóнік (цýнік)
91. Чамáра
92. Шáхворост
93. Шчыбрáву
94. Шчы́зье
95. Шчы́ковіца
96. Я́брудзь
97. Я́трацъ.

*Аляксандр Крывіцкі*

# СПІС
## абследаваных населеных пунктаў*

1. Тураў (Ту́роў)
2. Запясочча (Запесо́ч’е)
3. Дварэц (Дворэ́ц)
4. Буразь (Бу́рэзі)
5. Крамнае (Крэ́мно)
6. Чэрнічы (Чэ́рнічы)
7. Верасніца (Верэсні́ца)
8. Вароніна (Воро́ніно)
9. Малешаў (Малы́ Ма́лешоў)
10. Хільчыцы (Хі́льчычы)
11. Бярэжцы (Берэ́зцы)
12. Рычоў (Рычо́ў)
13. Хачэнь (Хочэ́нь)
14. Рыдча (Ры́дча)
15. Старажоўцы (Сторожо́ўцы)
16. Сямурадцы (Сему́родцы, Сему́радцы)
17. Знаменка (Сле́пцы)
18. Азяраны (Озера́ны)
19. Пагост (Пого́ст)
20. Вялікае Малешава (Велі́кі Ма́лешоў, Велі́ке Ма́лешэво)
21. Альгомель (О́льгомле, О́глемэль)
22. Талмачава (Толма́чоў)
23. Любавічы (Любові́чы)
24. Луткі (Лу́ткі)
25. Кароцічы (Коро́чычы)
26. Аздамічы (Озда́мічы)
27. Цераблічы (Церэблі́чы)
28. Семігосцічы (Семуго́шчы, Семіго́шчычы)
29. Альшаны (Ольша́ны)
30. Велямічы (Велемі́чы)
31. Рамель (Рэме́ль)
32. Альпень (Ольпе́нь)
33. Рубель (Рубе́ль, Рубэ́ль)
34. Мачуль (Мочу́ль, Мочу́ле)
35. Хотамель (Хо́томле)
36. Найда (Найда́)
37. Боркі (Бо́рок)
38. Доўгая Дуброва (До́ўга Дубро́ва)

---

* Нумарацыя адпавядае нумару населенага пункта на карце, у дужках падаецца мясцовае вымаўленне.

